• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

31 кастрычніка 1998 г. субота. № 214 (23565)



# ЗВЯЗДА

## ПУЦЁЎКІ ПАДАРАЖЭЮЦЬ?

Не выключана, што ўжо з лістапада істотна ўзрасце кошт адпачынку ў здраўніцах Беларусі. Прынамсі, калі да нядаўняга часу сярэдні сабекошт пуцёўкі ў айчынныя санаторыі і дамы адпачынку вагаўся ў межах 9—10,5 млн. рублёў, то зараз для санаторыяў I катэгорыі ён складзе каля 22 млн., для санаторыяў II катэгорыі — 19—20 млн., для санаторыяў III катэгорыі — 17—18 млн. рублёў.

Як паведаміў у гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» кіраўнік Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленню і санаторна-курортнаму лячэнню насельніцтва Уладзімір Рыжанкоў, цяперашняя «падвышка» тлумачыцца перш-наперш значным ростам выдаткаў здраўніц на харчаванне, лекі і культабслугоўванне. Аднак, нягледзячы на гэту непрыемную акалічнасць, падстаў для зрыву сёлетняга плана аздараўлення няма — ён практычна выкананы ўжо за 9 месяцаў года.

Варта нагадаць, што для насельніцтва рэспублікі захоўваюцца зацверджаныя раней памеры частковай кампенсацыі за пуцёўкі (яна ў залежнасці ад заробку грамадзяніна складае 10—25 працэнтаў ад кошту), а таму мяркуемы рост цэн не павінен надта балюча ўдарыць па кашальку адпачываючых. Зараз, па словах Ул. Рыжанкова, больш непакоіць іншае: у сувязі з цяжкасцямі ўзаемнай канвертацыі нацыянальных валют Рэспубліканскі цэнтр па аздараўленню і санаторна-курортнаму лячэнню вымушаны скасаваць да канца года дамовы са здраўніцамі Украіны.

**Сяргей ГРЫБ.**

## «ЦЕНЕВІКІ» ПРАДАЮЦЬ USD УЖО ПА 185 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ

На ценявым банкнотным рынку новыя зрухі. Аднак нічога прыемнага, на жаль, для беларускага рубля не адбываецца. Наадварот, «чорны рынак» у чарговы раз саступіў цвёрда канверсоўнай. І калі яшчэ два дні таму розніца паміж продажам наяўнага, напрыклад, долара ў абменных пунктах і ў вулічных мянял не перавышала сто тысяч рублёў, то ўчора разбежка пераваліла нават і гэтую суму. Нагадаем, што ў асноўным продаж USD у «абменніках» цяпер складае 80 тысяч рублёў за долар. На ценявым банкнотным рынку на гэтым тыдні курс трымаўся ў межах 170—180 тысяч рублёў. Пятніца крыху гэты курс «падкарэкціравала»: скупка долара пераважна там вялася па 175 тысяч рублёў за долар, а купіць яго можна было за 185 тысяч.

**Ігар ГРЫШЫН.**



*Дзень памяці — мусіць, Дзень маўчання Памаўчым, прыгадаем і ўшануем тых, дзякуючы каму мы з'явіліся на свет. Прыгадаем і падумаем пра сябе. Пра сябе сённяшніх. Пра тое, якімі быць, каб не было сорамна нашчадкам. Ужо нашым нашчадкам. Час — у душах і думках. І ў працягу. Мы — працяг продкаў. Беларусь жыве, бо продкі ў нашых сэрцах.*

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## МІКАЛАЙ ДАМАШКЕВІЧ ДАЛАЖЫЎ ПРЭЗІДЭНТУ КРАІНЫ АБ РАБОЦЕ КАМІТЭТА ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

**У адпаведнасці з раней дадзеным даручэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Камітэту дзяржаўнага кантролю вывучыць абстаноўку з цэнаўтварэннем, 30 кастрычніка старшыня Камітэта дзяржкантролю Мікалай Дамашкевіч далажыў кіраўніку дзяржавы Аляксандру Лукашэнку аб матэрыялах праверак і папярэдніх высновах, а таксама прадставіў прапановы па гэтаму пытанню.**

Як паведаміў БЕЛТА кіраўнік прэс-службы прэзідэнта Уладзімір Скварцоў, былі таксама разгледжаны прапановы па саставу і арганізацыі работы ствараемай рэспубліканскай камісіі для больш глыбокага вывучэння дзеючай сістэмы цэнаўтварэння разам са спецыялістамі Камітэта цэн Міністэрства эканомікі і іншых дзяржаўных органаў. Кіраўніком дзяржавы пастаўлена задача ўнесці, на аснове гэтага аналізу, канкрэтныя прапановы аб мерах па нармалізацыі сітуацыі ў гэтай жыццёва важнай сферы.

Мікалай Дамашкевіч далажыў прэзідэнту і аб мерах, якія прымае Камітэт дзяржаўнага кантролю па выкананню распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па рэалізацыі канфіскаваных матэрыяльных каштоўнасцяў і прыцягненню атрыманых сродкаў у бюджэт рэспублікі. Кіраўніком краіны дадзены ўказанні аб эфектыўным узаемадзеянні ў гэтым пытанні з іншымі дзяржаўнымі структурамі.

Кіраўніку дзяржавы таксама было далажана аб ходзе выканання Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 11 чэрвеня 1996 года № 212, накіраванага на падтрымку будаўніцтва аб'ектаў міласэрнасці. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь запатрабаваў няўхільнага захавання ўсімі дзяржаўнымі структурамі парадку фінансавання будаўніцтва гэтых аб'ектаў.

**БЕЛТА.**

## І. АНТАНОВІЧ: «У БЕЛАРУСІ СВОЙ ШЛЯХ У ЕЎРАПЕЙСКУЮ ІНТЭГРАЦЫЮ»

**У МЗС краіны адбыўся брыфінг для журналістаў. Міністр нядаўна вярнуўся з паездкі ў Індыю і Турцыю і таму, натуральна, спыніўся на яе выніках.**

Калі візіт у Індыю насіў руцінны характар (разглядаўся ход выканання ранейшых дамоўленасцяў і г. д.), то ў Турцыі адбыўся шэраг важных перамоў і кансультацый з кіраўніцтвам краіны, высокапастаўленымі асобамі. Бакі абмеркавалі перспектывы інвестыцый у Беларусь, у прыватнасці, у Гродзенскую тытунёвую фабрыку.

Як вядома, у абедзвюх краінах свае даволі сур'ёзныя праблемы ў адносінах з Еўрапейскім саюзам. І гэта нягледзячы на тое, што Турцыя з'яўляецца членам НАТО. Тым не менш, адносіны яе з ЕС развіваюцца цяжка. Таму ў ходзе перамоў з турэцкім бокам была, як выказаўся І. Антановіч, зафіксавана поўная ідэнтычнасць падыходаў да ЕС. Напрыклад, што кожная краіна павінна ісці ў еўрапейскую інтэграцыю сваім шляхам і нельга паддавацца ціску і браць за ўзор толькі адну мадэль далучэння да ЕС. Не варта тупы спяшацца і нельга перасковаць праз нацыянальныя інтарэс. Можа таму І. Антановіч у бліжэйшай будучыні не бачыць перспектыў для ўступлення нашай краіны ў ЕС.

Увогуле, сказаў міністр, самастойная пазіцыя Беларусі выклікае павагу і ў Індыі, і ў Турцыі.

Ужо агульным месцам усіх брыфінгаў у МЗС за апошнія месяцы стала пытанне наконт «Драздоў». І мінулы не стаў выключэннем. І. Антановіч паведаміў, што днямі Мінск наведаў прадстаўнік ЕС, які меў гутаркі на гэту тэму.

Сёння МЗС працягвае весці інтэнсіўныя перамовы, якія, па словах міністра, павінны зацікавіць іх удзельнікаў. Магчыма, шэрагу паслоў будуць пасля рамонту прапанаваны дамы ў дачным пасёлку «Драздзы», але не на тэрыторыі цяперашняй рэзідэнцыі прэзідэнта Беларусі, а побач. Дарэчы, паслу Турцыі ўжо прапанавана жыць у адным з такіх дамоў, так бы мовіць, у «Драздах-2». Зараз гэта пытанне вывучаецца турэцкім бокам.

Стрымана, але станоўча адгукнуўся міністр пра Віктара Лукашэнку, старэйшага сына прэзідэнта, які цяпер працуе ў рангу трэцяга сакратара МЗС. Нядаўна ён у саставе дзяржаўнай дэлегацыі наведаў Югаславію. На думку І. Антановіча, В. Лукашэнка «нармальны трэці сакратар і нармальна выконвае свае абавязкі».

Наконт паведамленняў пра візіт у Беларусь папы Рымскага міністр адзначыў, што ўжо не першы раз яго прыезд абмяркоўваецца як верагодны. Зараз чарговы этап гэтых абмеркаванняў.

На пытанне аб тым, ці ёсць магчымасць у Югаславіі ўступіць у Саюз Беларусі і Расіі, І. Антановіч адказаў, што саюз гэты адкрыты для ўсіх, і дарога туды нікому не забаронена.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ВОСЕННЮ ЛІЧАЦЬ НЕ ТОЛЬКІ КУРАНЯТ

**У Мінску чарговы дэфіцыт — курыныя яйкі. Вось ужо даволі працяглы час у пэўных раёнах горада купіць іх немагчыма як у звычайных магазінах, так і на рынках. Не выратоўваюць і фірменныя «птушыныя» крамы — карэспандэнт «Звязды» абышоў некалькі з іх, але яек у продажы нідзе не заўважыў. Гавораць, што там, дзе «выкідваюць» гэты тавар, імгненна ўтвараюцца чэргі. Не палохае людзей і новая цана на наваяўлены далікатэс — каля 34 тысяч рублёў за дзесятак.**

Як пацвердзілі радакцыі ў аддзеле гандлю харчовымі таварамі Галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Мінгарвыканкама, сапраўды, апошнім часам патрэбы горада ў гэтай прадукцыі задавальняюцца толькі на 70 працэнтаў.

Прычына — недапастаўкі ад «Белптушкапрама». Як тлумачаць гандлёвым работнікам яго прадстаўнікі, маўляў, трэба разлічвацца за адгрузку кармоў, таму яйкі, у прыватнасці, ідуць на экспарт. Натуральна, Галоўнае ўпраўленне спажывецкага рынку Мінгарвыканкама такая сітуацыя непакоіць, але што рабіць. Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», у бліжэйшыя дні адбудзецца сустрэча прадстаўнікоў «Белптушкапрама» і спецыялістаў гандлю, якія, спадзяюцца, знойдуць кампраміс. Ці ўдасца гэта зрабіць — убачым на паліцах магазінаў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## У «БЕЛАРУСІ» МОЖНА НАБЫЦЬ «КАНФІСКАТ». ПРАЗ ВЯЛІКУЮ ЧАРГУ

**У апошнія дні ў пэўных гандлёвых секцыях сталічнага універмага «Беларусь» у літаральным сэнсе яблыку няма дзе ўпасці. Вялікі натоўп людзей збіраецца перад дзвярыма магазіна яшчэ перад яго адкрыццём, а затым у лічаныя хвіліны ўтварае велізарныя чэргі, якія асабіста мне даводзілася бачыць толькі ў савецкія часы. Справа ў тым, што ва універмагу з аўторка пачалі працаваць 9 секцый, у якіх на продаж выстаўляюцца рэчы і вырабы, што былі арыштаваны або канфіскаваны ў грамадзян па рашэнню суда. Незвычайныя секцыі так і называюцца — «Канфіскаты».**

Рашэнне аб адкрыцці падобных магазінаў было прынята нядаўна Мінгарвыканкамам. У будучым такія гандлёвыя кропкі павінны з'явіцца ў кожным раёне беларускай сталіцы. А па інфармацыі, атрыманай у прэс-сакратара міністра гандлю Вячаслава Лявонава, у перспектыве — і ўсёй краіне. Ужо, дарэчы, ёсць адпаведны пералік гандлёвых прадпрыемстваў, якія будуць займацца рэалізацыяй падобных рэчаў і вырабаў. Дарэчы, у сталічным універмагу «Беларусь» такія секцыі па продажы «канфіскату» існавалі і раней. Пэўны пакупніцкі ажыятаж, чэргі былі выкліканы тым, што, у адрозненне ад папярэдній работы секцый, у продаж паступіла буйная партыя тавараў, канфіскаваных па рашэнню суда.

— Гаворка ідзе пра цэлы самалёт, а гэта 24 вялікія фуры адзення і абутку, — расказвае намеснік кіраўніка універмага «Беларусь» Уладзімір Калтовіч. — Тавар на суму каля 60 мільярдаў рублёў паступіў да нас са складоў Мінскай рэгіянальнай мытні. Мінгарвыканкамам было прынята рашэнне перадаць увесь канфіскат нам, бо мы, па-першае, дзяржаўнае прадпрыемства, па-другое, дазваляюць плошчы. Уявіце, калі б тавар паступіў у нейкі магазін з малой гандлёвай залай?! Нават мы адчуваем пэўныя нязручнасці.

Сапраўды, там, дзе працавалі секцыі, немагчыма было нават прабіцца да прылаўка. Аб тым, чым жа ўласна гандлююць, мне паведаміў Уладзімір Калтовіч.

— Гэта швейныя вырабы, абутак. Скажам, трыкатажныя сукенкі прадаюцца па адназму мільёну рублёў, дзіцячыя камбінезоны — па 2,5 мільёна, жаночы і мужчынскі абутак — па 2,5—3 мільёна, дзіцячыя фуфайкі, гольфікі — па 300—500 тысяч рублёў. Тавар гэты, як відаць, везлі на рынак, таму і якасць адпаведная.

Што да якасці, дык многія набываюць сабе абутак і адзенне менавіта там, таму ведаюць, што яна не заўсёды дрэнная. А вось цэны — намнога меншыя. Адсюль і чэргі.

Справа ў тым, што са складоў тавар паступае ўжо з закладзенай у рознічны кошт 10-працэнтнай скідкай. Яго сартуюць яшчэ на складах, потым прыводзяць у належны выгляд яшчэ і ва універмагу. Таму да спажыўцоў ён трапляе ў неблагім стане. На рэчавым кірмашы «Дынама» за гэты ж абутак і адзенне давялося б, мабыць, выкласці разоў у 5 больш. Але ведайце, што на продаж гэтых тавараў распаўсюджваюцца нормы водпуску — гэтак жа, як і на іншыя тавары.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Усміхнёмся!





Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

*Тралейбус.*

*— Вы выходзіце на наступным прыпынку?*

*— Не.*

*— Тады давайце мяняцца.*

*— А што ў вас ёсць?*

•

*Маладая дама спыняе сваю машыну перад чырвоным святлом святлафора. Запальваецца жоўты — дама стаіць, зялёны — дама стаіць. Зноў чырвонае святло, ззаду пачалі гудзець іншыя машыны...*

*Павольна падыходзіць паліцэйскі і ветліва пытае:*

*— Мадам жадае які-небудзь другі колер?*

## СЕСІЯ ПАРЛАМЕНЦКАГА СХОДУ САЮЗА БЕЛАРУСІ І РАСІІ Ў ЯРАСЛАЎЛІ МОЖА СТАЦЬ ЛЁСАНОСНАЙ

Дэлегацыя Нацыянальнага сходу Беларусі 31 кастрычніка адбудзе ў Яраслаўль, дзе 2-3 лістапада пройдзе дзевятая сесія Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі.

На думку многіх, гэта сесія можа стаць лёсаноснай для далейшага развіцця «саюза двух». Парламенцкі Сход знаходзіцца ў працэсе стварэння прынцыпова новай прававой базы Саюза Беларусі і Расіі. У праект парадку дня ўключана больш за 20 пытанняў, што датычаць розных аспектаў яго жыццядзейнасці. Асноўным эканамічным законам, які будзе абмяркоўвацца, з'яўляецца праект «Аб парадку распрацоўкі, разгляду, прыняцця і выканання бюджэту Саюза». На разгляд выносіцца таксама праект сумеснага бюджэту на 1999 год.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## КАМСАМОЛ УПІСАЎ СВАЮ СТАРОНКУ Ў ГІСТОРЫЮ, І ВЫКРАСЛІЦЬ ЯЕ НЕМАГЧЫМА

Як ніколі шырока за апошнія гады ў нашай краіне адзначаўся дзень нараджэння камсамола. Апафеозам праведзеных па ўсёй рэспубліцы мерапрыемстваў у гонар 80-годдзя ВЛКСМ стаў урачысты вечар, які адбыўся 29 кастрычніка ў Цэнтральным Доме афіцэраў. І самым ганаровым госцем сярод тых, каму дарагі камсамол, быў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

Святам маладосці і аптымізму назваў дзень нараджэння камсамола кіраўнік дзяржавы. Ён заклікаў усіх — цяперашнюю моладзь і ветэранаў камсамола — умацоўваць сувязь пакаленняў, аб'яднаўшы намаганні ў вырашэнні вельмі складаных задач, што стаяць перад нашай краінай. «І давайце больш актыўна выхоўваць моладзь у духу свабоды, дэмакратыі, міру, любві і служэння Айчыне», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

**Аксана ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## ПЕРШЫМ БУДЗЕ ЛЕБЕДЗЬ?

**У Маскве гэтымі днямі праходзіць выстаўка «Прэса-99», дзе разгорнута і шырокая беларуская экспазіцыя з удзелам «Звязды». У рамках выстаўкі адбыліся сустрэчы групы беларускіх журналістаў з віцэ-прэм'ерам, намеснікам Старшыні Выканкама Саюза Беларусі і Расіі Васілём Далгалёвым, паслом Беларусі ў Расіі Уладзімірам Грыгор'евым, старшынёй расійскага Дзяржкамітэта па друку Іванам Лапцевым, а таксама з шэрагам іншых расійскіх палітыкаў і калег па пяру. Вось што запомнілася...**

### АБ СІТУАЦЫІ Ў РАСІІ

Запазычанасць па зарплаце ў Расіі 65 мільярдаў рублёў (нават на абаронных прадпрыемствах, якія выпускаюць ракеты і спадарожнікі, па 16 месяцаў не выплачваюць людзям грошы), аднак запасаў у магазінах маецца толькі на 32 мільярды рублёў. Гэта значыць, што калі выплаціць затрыманую зарплату, то з магазінаў імгненна вынесуць не толькі ўсе тавары, але і прадаўцоў. Мяса ў СССР ужывалі ў 2,5 раза больш, чым сёння ў Расіі, рыбы — 18 кг і 3 кг сёння, садавіны таксама раней было ўтрая больш. Не дзіўна, што сярэдняя працягласць жыцця тут упала з 72 да 56 гадоў, а ў Новасібірску — да 44 гадоў, у тым ліку і ад недаядання. Расія ўжо не можа забяспечыць сябе сваім харчаваннем.

Увогуле, сітуацыю тут ацэньваюць як ніжэй за крытычную мяжу. Некаторыя прагназіруюць магчымы ў бліжэйшыя месяцы яшчэ адзін абвал расійскага рубля — да 40—50 за долар. Сёння ёсць рэгіёны, дзе людзі дагэтуль не бачылі новых расійскіх грошай — па 5-6 гадоў не атрымліваюць зарплату і жывуць толькі са свайго агарода. Нават у Маскве, якая, маючы 90 працэнтаў усіх расійскіх фінансаў, стала як бы асобнай дзяржавай у Расіі, афіцэрам Генштаба выплачваюць заробленае з 2-3-месячнай затрымкай. Раскансервуюцца вайсковыя хлебапякарні, бо нават у афіцэраў няма грошай на ежу.

Многія прыводзяць словы Кісінджэра аб магчымым расчляненні Расіі і пакаранні Беларусі за тое, што яна павярнулася да Расіі. Гаварылася нават, што мы сёння знаходзімся ў стадыі трэцяй сусветнай вайны, калі дзеляцца рынкі і магчымы ўвод у Расію міратворцаў пад маркай небяспечнага стану ядзерных аб'ектаў з-за няхваткі сродкаў на абслугоўванне.

На думку некаторых назіральнікаў, у Расіі ўвогуле склалася рэвалюцыйная сітуацыя, і абстаноўка ў час нядаўніх восеньскіх дэманстрацый была б сапраўды выбухованебяспечнай, калі б не змена ўрада. 95 працэнтаў грамадства адмаўляе ўсякую ўладу ўрада (да прыходу Прымакова). Дарэчы, урад Прымакова ацэньваецца многімі як самы моцны пасля ўрада Касыгіна. Многія губернатары гатовы ўвесці свае грошы, рабіць уласныя губернскія золатавалютныя запасы, што дэ-факта можа прывесці Расійскую Федэрацыю да канфедэрацыі.

Некаторыя аналітыкі мяркуюць, што ў магчымых хуткіх прэзідэнцкіх выбарах гонку пачнуць больш за 20 прэтэндэнтаў. У другі тур выйдзе прадстаўнік левых. Наўрад ці пройдуць Чарнамырдзін, Яўлінскі, Жырыноўскі. Аднак левыя не змогуць перамагчы без саюза з Лужковым. І першым тады будзе Лебедзь — моцная рука, спыніў вайну ў Чачні...

### АБ БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІХ ЭКАНАМІЧНЫХ УЗАЕМААДНОСІНАХ

За 2 гады тавараабарот у рамках Саюза Беларусі і Расіі вырас амаль удвая. З прыходам Прымакова ўвага да Беларусі рэзка ўзрасла.

У 1990 годзе Беларусь паставіла ў Расію харчавання на 2.700 мільёнаў долараў, а летась — толькі на 300 мільёнаў. Сёння можна прадаць у суседняй дзяржаве любую колькасць беларускіх прадуктаў, але ў сваю чаргу мы зацікаўлены перш за ўсё ў сустрэчных пастаўках збожжа для жывёлагадоўлі.

Для аднаўлення сельскай гаспадаркі Расіі да ўзроўню 1990 года патрэбна каля 20 гадоў. Ужо зараз расійскі рынак складае 600 тысяч трактароў тыпу «Беларусь», і варта было б ісці на стварэнне СП для выпуску ў Расіі беларускіх трактароў «МТЗ-80», інакш такія СП створаць амерыканцы ці фіны.

«Белкамунмаш» выйграў тэндэр у Маскве ў германскіх фірмаў на пастаўку беларускіх тралейбусаў. У Расіі цяпер такіх машын няма, як няма роўных і нашаму «Неаплану» (мы, дарэчы, прапануем арганізаваць іх зборку ў Расіі).

### АБ СТАНОВІШЧЫ РАСІЙСКАЙ ПРЭСЫ

Сярод 25 тысяч газет і часопісаў толькі 4 дзяржаўныя — «Российская газета», «Парламентская газета», часопісы «Родина» і «Российская Федерация сегодня». 98 працэнтаў СМІ ў прыватнай уласнасці, і яшчэ два працэнты належаць палітычным партыям. Аднак калі закон аб падтрымцы СМІ не будзе прыняты, палова газет і часопісаў закрыюцца. Калі раней толькі «Аргументы и факты» мелі 33 млн. падпісчыкаў, то цяпер агульны тыраж усіх расійскіх выданняў не дасягае 32 млн. экземпляраў. Многія газеты «акукліліся» толькі ў межах Садовага кальца. У расійскай правінцыі ёсць цэлыя раёны, дзе практычна ніхто не выпісвае ніводнага цэнтральнага, маскоўскага выдання. Ідзе пераразмеркаванне чытацкіх сімпатый на карысць рэгіянальнай прэсы. Другая — нечаканая — тэндэнцыя ў тым, што чытач аддае перавагу часопісам, якія ўвогуле захавалі тыражы, а рэгіянальныя нават павялічылі на 20 працэнтаў (пры падзенні падпіскі на газеты штогод на 10 працэнтаў). Спецыялісты лічаць, што будучыня — за штотыднёвікамі і часопісамі. Гэта чакае і Беларусь, бо такая сёння сусветная практыка. Прынцыповая памылка газет у тым, што яны ўвязаліся ў пройгрышную пагоню з тэлебачаннем па аператыўнасці і аб'ёму інфармацыі. Варта ў многім вяртацца да ранейшага вопыту, калі газеты былі субяседнікамі, аналізавалі і каменціравалі падзеі, абаранялі людзей.

**Уладзімір НАРКЕВІЧ.**

*Як жывеш, сталіца?*

## СЁННЯ Ў МІНСКУ ЗАКАНЧВАЕЦЦА МАСАВАЯ АКЦЫЯ «ЧЫСТЫ ГОРАД»









У кожным раёне сталіцы стварылі мабільныя групы для прымусовай адбуксіроўкі машын, якія перашкаджаюць уборцы вуліц, загрувашчваюць зялёныя зоны і тратуары. Яны ж выяўлялі месцы так званых несанкцыяніраваных звалак смецця, дабіваліся іх ліквідацыі, вылоўлівалі тых «аматараў прыроды», якія імкнуліся цішком выкінуць друз у прыгарадным лесе, месцах адпачынку мінчан. Пільная ўвага ўдзялялася будоўлям — на прадмет ачысткі колаў аўтамабіляў з тым, каб бруд не выносіўся на гарадскія вуліцы і дарогі.

Што можна канстатаваць? Выявілася, напрыклад, тэндэнцыя да павелічэння колькасці «самадзейных» звалак.

— Гэта нас вельмі хвалюе, — заўважае начальнік аддзела экалагічнага нагляду ўпраўлення ДАІ Мінска Генадзь Шылец. — Выяўлена 30 фактаў звалкі смецця вадзіцелямі ў нявызначаных месцах. Яны, вядома ж, былі ліквідаваны. Кіраўнікі адпаведных прадпрыемстваў і арганізацый атрымалі на гэты конт самыя жорсткія прадпісанні, вінаватыя вадзіцелі пакараны ў адміністрацыйным парадку і аштрафаваны, а штрафы ў гэтых выпадках былі максімальныя.

Ужо выяўлена больш як 3 тысячы парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства.

На жаль, гэтым грашаць прадстаўнікі суб'ектаў гаспадарання ўсіх формаў уласнасці. Што насцярожвае, бо, аказваецца, і на дзяржаўных прадпрыемствах адсутнічае прыродаахоўная дысцыпліна.

Акцыя па падтрыманню чысціні навакольнага асяроддзя завершана, але «не згорнута». Цяпер яна будзе працягвацца пастаянна месяц за месяцам. Мінск павінен быць чыстым і прыгожым горадам — сапраўднай візітнай карткай краіны.

Аб канчатковых выніках масавай акцыі «Звязда» абавязкова паведаміць сваім чытачам. Пакуль жа змяшчаем здымкі, якія паказваюць, як праходзілі рэйды мабільных груп экалагічнага нагляду Дзяржаўтаінспекцыі.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

**На здымках:** ***уладальніку гэтага аўтамабіля давядзецца звяртацца ў міліцыю наконт знятых нумарных знакаў: ён парушыў правілы стаянкі ў жылым масіве; запозненае раскаянне вадзіцеля-парушальніка; такія стыхійныя звалкі сустракаюцца ў горадзе часта.***

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## ВЯРБОЎШЧЫКІ АКАЗАЛІСЯ АФЕРЫСТАМІ

**На вудачку лжэвярбоўшчыкаў клюнулі даверлівыя магіляўчане. Сцэнарый гэтай аферы разгортваўся з самымі высакароднымі намерамі. У Магілёў прыехалі двое наймальнікаў рабочай сілы на будаўніцтва катэджаў ва Усурыйскім краі для афіцэраў, якія ідуць у запас.**

Дзейнічалі жыхары Далёкага Усходу ад імя воінскай часці з горада Усурыйска. Адзін прадстаўляўся намеснікам камандзіра па тылу палкоўнікам Аталіханавым, другі, накшталт памочніка, лейтэнантам Казілхіравым. Яны вербавалі добраахвотнікаў па аб'явах, расклееных на вулічных слупах, па аб'явах, што прагучалі па мясцовым радыё і тэлебачанні. У гарадскім цэнтры занятасці ім прадаставілі стол для афармлення дакументаў. Патрабаванні да будучых будаўнікоў прад'яўляліся самыя жорсткія. Трэба было прадставіць працоўную кніжку з адзнакай аб звальненні з работы, пашпарт з прапіскай, медыцынскую даведку, дакументы, што пацвярджаюць рабочую кваліфікацыю, і тры фотакарткі для асабовай справы. Нават узрост улічвалі — не старэй 50 гадоў. Два тыдні ішоў гэты старанны адбор добраахвотнікаў. Будучым будаўнікам наймальнікі паабяцалі вялікія заработкі — гарантыйную плату не менш чым чатырыста долараў ЗША ў месяц. 67 працэнтаў кошту авіяпералёту ад Масквы да Уладзівастока брала на сябе нібыта Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі. Астатнія 33 працэнты — а гэта 150 долараў — кожны павінен быў даплаціць сам. «Зялёненькія», зразумела, здавалі вярбоўшчыкам. І аматары рамантычнай паездкі ва ўсурыйскую тайгу паверылі гэтай лухце. 36 добраахвотнікаў купілі за свой кошт білеты да Масквы коштам па 927 тысяч рублёў. Потым аказалася, што самалёт будзе браць іх на борт толькі з Разанскага ваеннага аэрадрома. Прыйшлося раскашэліцца яшчэ на 23 тысячы расійскімі на далейшы шлях па чыгунцы. Так нашы вандроўнікі дабраліся да Разані. А там дабрадзеі-вярбоўшчыкі бясследна зніклі з сабранымі ў прастакоў доларамі. Ніякая воінская часць з Усурыйска і не збіралася падаваць сюды самалёт для будучых будаўнікоў афіцэрскіх катэджаў. Больш таго, як высветлілася, воінская часць, ад імя якой дзейнічалі махляры, даўно расфарміравана ва Усурыйску. Так ні з чым добраахвотнікі і вярнуліся ў родны Магілёў.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БЕЛТА.**

*Віншаванні*

Віншуем з днём нараджэння **Барыса Сяргеевіча КАРПОВІЧА** з г.п. Любча Навагрудскага раёна. Жадаем моцнага здароўя, радасці і шчасця на доўгія гады.

**Сям'я Новікаў.**

Віншуем з юбілеем дарагую дачушку **Ірыну КІСЛЮК** з Кобрынскага раёна. Зычым моцнага здароўя, сямейнага шчасця, поспехаў у працы і радасці ў жыцці.

**Бацькі,** *г. Бяроза.*

### СЁННЯ

**СОНЦА**

| | Усход | Заход | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.07 | 16.39 | 9.32 |
| Віцебск – | 7.01 | 16.26 | 9.25 |
| Магілёў – | 6.56 | 16.29 | 9.33 |
| Гомель – | 6.51 | 16.28 | 9.37 |
| Гродна – | 7.23 | 16.53 | 9.30 |
| Брэст – | 7.18 | 17.00 | 9.42 |

**МЕСЯЦ**

**Першая квадра 28 кастрычніка.**

***З 14.44 — 12-ыя месяцавыя суткі.***

***Месяц — у сузор'і Рыбаў.***

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Іосіфа, Лукі, Юліяна. К. Крыстафа, Урбана.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пройдуць кароткачасовыя дажджы. Вецер заходні, 7-12, месцамі парывы 15-20 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску — 5-7, Мінску, Магілёве — 6-8, Гродне, Гомелі — 7-9, Брэсце — 8-10 градусаў вышэй нуля.

У наступныя двое сутак: 1-га ўдзень — па паўднёва-заходняй палавіне рэспублікі, 2-га — на большай частцы тэрыторыі дажджы, месцамі моцныя. Вецер паўднёва-заходні, удзень 2-га паўночна-заходні, 7-12 м/сек. Тэмпература 1-га ўначы — 1-6, удзень — 5-10, 2-га 3-8 градусаў цяпла.

## ЯК ЗАЛЕЖЫЦЬ КОШТ КВАТЭРЫ АД ПАВЕРХА

***Чула, што пабудаваць кватэру на першым і пятым паверхах (у нас пяціпавярховы дом) на 40 працэнтаў танней, чым на другім, трэцім і чацвёртым. Няўжо гэта сапраўды так і чаму?***

**Алена РАДЗЮК,** *г. Івацэвічы Брэсцкай вобласці.*

Як паведамілі «Звяздзе» ў Міністэрстве архітэктуры і будаўніцтва рэспублікі, дзяржаўныя будаўнічыя арганізацыі ўжываюць у сваёй практыцы каэфіцыент спажывецкай якасці кватэры. Так, напрыклад, кошт кватэры на цокальным паверсе будзе меншым (на 10 працэнтаў), чым на астатніх, бо ўжываецца каэфіцыент 0,9, для першага паверха — 0,99, для апошняга — 0,99, для трэцяга і чацвёртага (у дзевяціпавярховым доме) — 1,04 і 1,03 адпаведна. На жаль, спадарыня Радзюк не паведаміла нам, якая арганізацыя будуе яе дом. Справа ў тым, што для недзяржаўных будаўнічых арганізацый каэфіцыент спажывецкай якасці кватэры вызначае мясцовы выканаўчы і распарадчы орган.

## ЦІ МОЖНА «СТВАРЫЦЬ» НОВАГА СТАЛІНА?

***Паважаны «Пытальнік»! Шмат чуў пра так званае кланіраванне, пра тое, што можна штучным шляхам стварыць дакладную копію любой жывой істоты, нават той, якой ужо даўно няма на гэтым свеце. Але ці не дачакаемся мы часам таго, што зноў сутыкнёмся з Гітлерам?***

**А. М.,** *г. Гродна.*

У бліжэйшы час кланіраванне наўрад ці выйдзе са сферы чыстага эксперыменту. І ніколі, як мяркуюць аўтарытэтныя спецыялісты, не зможа замяніць натуральнае размнажэнне, таму што гэта будзе вельмі дорага. А разлічваць на тое, што «выведуць» новага Гітлера ці Сталіна, не варта: яны атрымаліся такімі не толькі дзякуючы генам, перададзеным ад бацькоў, яны таксама — вынік самаразвіцця, на іх учынкі ў многім паўплавалі такія рэчы, як узровень адукацыі, гістарычная абстаноўка і нават (а можа быць, і ў найбольшай ступені) акружэнне — сябры, знаёмыя і г.д. Калі б гэтыя людзі нарадзіліся ў іншы час, у іншай краіне — хто ведае, магчыма, з кожнага атрымаўся б неблагі чалавек — мастак ці паэт: мастацкія задаткі праяўляліся як у аднаго, так і ў другога.

## ВЫДАЧА ПАЗЫК ЛІКВІДАТАРАМ ЧАСОВА ПРЫПЫНЕНА

***Я ліквідатар аварыі на Чарнобыльскай АЭС па 19-му артыкулу. Якія я маю льготы пры атрыманні ўчастка зямлі для індывідуальнага будаўніцтва жылля? Ці дадуць мне, як ліквідатару, большы ўчастак і як мне трэба за яго плаціць? Адкажыце, як дзяржава дапамагае ліквідатарам будаваць жыллё? Ці можам мы атрымаць пазыку на будаўніцтва жылля?***

**Уладзімір ШАРЭНДА,** *Дзяржынскі раён, вёска Вішнёўка.*

Паводле слоў начальніка ўпраўлення сацыяльнай абароны Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Уладзіміра Кудзіна, ліквідатары аварыі на Чарнобыльскай АЭС па 19-му артыкулу, маюць права першачарговага атрымання ўчастка зямлі для індывідуальнага будаўніцтва жылля. Іншыя льготы па памеру ўчастка, а таксама па яго аплаце заканадаўствам краіны не прадугледжаны. Раней для ліквідатараў на ЧАЭС існавала льгота па выдзяленню дзяржаўнай пазыкі і на будаўніцтва жылля.

### *Афіша выхадных*

**Дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Я.Купалы** *1 лістапада, у нядзелю,* прапануе сваім гледачам «гістарычна-недакладную» камедыю у 2-х дзеях па п'есе Ф.Дзюрэнмата «Ромул Вялікі». Пачатак а 19 гадзіне. **Дзяржаўны рускі тэатр** на вялікай сцэне *1 лістапада* прадставіць кароткую п'есу ў 3-х актах С.Віткевіча «Вар'ят і манашка». Пачатак а 19 гадзіне. У **Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі** *31 кастрычніка, у суботу*, мюзікл К.Партэра «Цалуй мяне, Кэт!» (19.00). 1 *лістапада* — музкамедыя ў 2-х дзеях В.Ільіна і В.Лукашова «Мая жонка — ілгуння!» (19.00); мюзікл для дзяцей В.Уланоўскага «Залатое кураня» (11.30). У **оперным** *у суботу* — С.Картэс «Візіт дамы».

*СПАЖЫВЕЦ*

## БЕЛАРУСКІ ШАКАЛАД КАНКУРЭНТАЎ НЕ БАІЦЦА

**Сцвярджэнні многіх беларускіх спажыўцоў, што нічога смачнейшага за наш шакалад не існуе, нарэшце знайшло сваё дакументальнае пацвярджэнне: на рэспубліканскім агульнаграмадскім конкурсе «Лепшая прадукцыя-98» першыя пазіцыі ў складзеным па выніках конкурсу рэйтынгу тавараў занялі менавіта беларускія кандытарскія вырабы.**

Так, у намінацыі «малочны шакалад» дыплом пераможцы атрымаў шакалад з цёртымі арэхамі «Спартак» (вытворца — ААТ «Спартак»), а лаўрэатам стала прадукцыя гандлёвай маркі «Ідэал» — шакалад «Саната» (вытворца — СП «Беларуская кафейная кампанія»). Лепшымі ж у намінацыях «горкі» і «дэсертны шакалад» былі прызнаны адпаведна шакалад «Экстра» і «Люкс» той жа гандлёвай маркі.

Пальму першынства ў намінацыі «шакаладныя цукеркі» журы конкурсу аддала цукеркам «Спартак», а лаўрэатам стала таксама гомельская прадукцыя — цукеркі «Сіўка-бурка» і «Беларускія».

Сярод бясспрэчных лідэраў конкурсу «Лепшая прадукцыя-98» трэба адзначыць і віцебскі кандытарскі камбінат «Віцьба».

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ЛАЗЕРАМ — ПА ВОКУ?

***У вашай газеце я ўбачыў рэкламу Цэнтра лазернай карэкцыі зроку «Оптимед». Мне толькі дваццаць гадоў і я вельмі хацеў бы пазбавіцца ад сваёй блізарукасці. Але няўжо пры маім дыягназе можна палепшыць зрок усяго за 60 секунд? І колькі каштуе лячэнне, каб арыентавацца ў цэнах, ці платныя кансультацыі? Загадзя вам удзячны.***

**Дзіма,** *Слонімскі раён.*

Як запэўнілі нас у Цэнтры лазернай карэкцыі зроку, пры вашым дыягназе, Дзмітрый, дапамагчы вам можна. Гэта пакуль першая і адзіная падобная ўстанова ў нашай краіне, якая мае сучаснае абсталяванне. Напрыклад, у Маскве і Санкт-Пецярбургу аналагічныя цэнтры дзейнічаюць ужо каля трох гадоў, а ў далёкім замежжы — каля дзесяці. Вось толькі цэны... За кансультацыю і дыягнастычнае абследаванне з вас возьмуць 70 долараў, за лазерную карэкцыю аднаго вока — 265 долараў. Прычым пакуль аплата вядзецца толькі ў валюце. Калі вы здольныя заплаціць такія грошы, трапіць да спецыялістаў нескладана. Патэлефануйце па ўжо вядомых вам нумарах і запішыцеся на прыём.

## АДЗІНАЯ БЕЛАРУСКА Ў ВОСКУ

***Паважаны пытальнік, шмат разоў даводзілася чуць аб музеі мадам Цюсо ў Лондане. Васковыя фігуры славутасцяў выстаўленыя там, па водгуках тых, хто наведваў музей, з'яўляюцца сапраўднымі шэдэўрамі мастацтва.***

***На жаль, мне не даводзілася бываць на Туманным Альбіёне і наўрад ці калі-небудзь пабываю там, таму хацелася б, каб вы крыху расказалі, што сабой уяўляе музей.***

**Андрэй КОРЗУН,** *г.Бабруйск.*

Прыехаць у Лондан і не наведаць музей мадам Цюсо — тое ж самае, што, наведаўшы Мінск, не пабываць у Траецкім прадмесці, на плошчы Перамогі, ці, у рэшце рэшт, на Камароўскім рынку. Музей гэты папулярны ў англійскай сталіцы, аб чым сведчыць такі факт: каб трапіць у яго, трэба стаяць паўтарыдзве гадзіны ў чарзе, а ў выхадныя і таго больш.

Мары Цюсо ўсё сваё жыццё ляпіла з воску розныя скульптуры, паколькі лепш за ўсё ёй удаваліся фігуры людзей, то яна вырашыла рабіць на гэтым бізнес — браць плату за прагляд сваёй калекцыі. Для чаго ў 1835 годзе яна пераехала з роднай Швейцарыі ў туманную Англію і адкрыла там музей, сёння вядомы ўсяму свету. Паколькі справы спачатку ішлі не вельмі добра, то мадам скульптарка пачала паказваць сваю калекцыю не толькі ў Лондане, але і ў розных іншых гарадах краіны, па якіх раз'язджала з некалькімі фургонамі. У ліку першых васковых фігур былі дзеячы Вялікай Французскай рэвалюцыі, з часу якой не прайшло і паўвека, — Дантон, Рабесп'ер і іншыя. А побач знаходзілася месца і для тагачасных злачынцаў, маньякаў, да якіх публіка праяўляла значна большую цікавасць, чым да палітыкаў. Пасля крымінальны свет па патрабаваннях грамадскасці быў выдзелены ў асобную экспазіцыю, якая стала называцца «Камера катаванняў».




Пасля таго, як у 1850 годзе мадам Мары Цюсо памерла, клопат пра музей узяла на сябе каралеўская сям'я, а стваральнікамі новых герояў экспазіцый сталі скульптары з прыватнай студыі, якія прымаюць заказ музея, вывучаюць новага кандыдата з галавы да пятак, і ўжо праз некалькі месяцаў новая фігура папаўняе рады адной з экспазіцый.

Над фігурай Наомі Кэмпбел, напрыклад, аўтары працавалі паўгода: уважліва вымералі кожны мезенец топ-мадэлі, каб прыгажуня пасля не мела прэтэнзій.

Сёння музей прапускае больш як два мільёны наведвальнікаў у год. Уяўляеце, колькі людзей пазнаёмілася з экспазіцыяй за больш як 160 гадоў існавання музея мадам Цюсо. Тут размешчана больш як 300 фігур. Зараз рашэнне аб устаноўцы кожнай новай фігуры залежыць толькі ад аднаго: любы наведвальнік павінен адразу ж пазнаць славутасць у твар, таму Альберт Эйнштэйн суседнічае тут з Мерэлін Манро, Міхаіл Гарбачоў — з Майклам Джэксанам, а Нельсан Мандэла— з Мадонай...

Асаблівы гонар музея — зала «Дух Лондана», у якой прадстаўлена 400-гадовае жыццё брытанскай сталіцы. Прычым яна славіцца не толькі сваімі васковымі фігурамі, не толькі гукавым афармленнем, не толькі інтэр'ерам, але нават... пахамі, якія гоніць сюды спецыяльная ўстаноўка.

Цікавае пытанне: у музеі адсутнічаюць таблічкі з надпісамі «Рукамі не чапаць». Калі ласка, можаце не толькі дакранацца, але і абдымацца, фатаграфавацца разам на фоне славутасцяў. Іншыя з экспанатаў настолькі праўдападобныя, што наведвальнік прымае іх за жывых людзей. Галоўны «прыкол» музея — васковая дама, якую, відаць, хапіў сардэчны прыступ, і людзі нярэдка кідаюцца да яе, каб аказаць дапамогу.

Вядома, пераважная большасць васковых славутасцяў — гэта англічане, французы, амерыканцы. З нашых з вамі суайчыннікаў там прадстаўлена толькі славутая гімнастка Вольга Корбут, якая жыве зараз у Амерыцы. У лонданскага музея мадам Цюсо шмат наведвальнікаў ва ўсім свеце. Захапленне дабралася і да постсавецкіх прастораў — да Масквы і Санкт-Пецярбурга. Музей васковых фігур Санкт-Пецярбурга двойчы прадстаўляў сваю калекцыю ў Мінску.

**Вольга РАМАНЮК.**

*Сітуацыя*

## І прызвалі Аляксандра ў салдаты. З захворваннем

**У армію Аляксандр М. з Добруша, у адрозненне ад некаторых іншых юнакоў, ішоў ахвотна: можна да сваёй спецыяльнасці электрагазазваршчыка, атрыманай у прафтэхвучылішчы, дадаць новую, якая спатрэбіцца ў жыцці. Нялішнім будзе таксама пашырыць і свой кругагляд.**

Былі, як кажуць, і іншыя матывы. Аднак не суджана было Сашу даслужыць увесь тэрмін, бо яго звольнілі ў запас па хваробе, якую выявілі ў вайсковай часці праз тры з паловай месяцы і з-за якой мы не называем прозвішча юнака. Зазначым толькі, што саслужыўцы, даведаўшыся аб ёй, кпілі з хлопца, з-за чаго і ўзнікла бойка і Аляксандр самавольны пакінуў часць.

Дома ён два дні правёў у бальніцы, а затым амаль цэлы месяц абследаваўся ў адной з медыцынскіх устаноў Гомеля. Пасля гэтага вярнуўся ў часць і прыгразіў вайсковаму ўрачу, што заб'е яго па той прычыне, што той прызначае яму пілюль меней, чым гэта рабілі ў бальніцы. Дадатковае лячэнне салдата ў арміі і стан яго здароўя паказалі, што ён непрыгодны для службы ў ёй у мірны час.

Здаецца, усё зразумела: хлопца адправілі дадому. Аднак тут ёсць адна «маленькая» закавыка. Ваенна-ўрачэбная камісія канстатавала з усёй адказнасцю: захворванне Аляксандра М. не звязана са службай у арміі. Дык вось, як магло здарыцца, што гэтае захворванне (ці хваробу) не выявілі ўрачы прызыўной камісіі? Як ён мог быць прызнаны годным без абмежаванняў да воінскай службы?

Як выявілася ў ходзе расследавання справы ў Гомельскім абласным гаспадарчым судзе, урачы тут ні пры чым. Так, яны ведалі аб захворванні Аляксандра і карысталіся загадам Міністэрства абароны, якім і кіраваліся ў сваіх рашэннях. І хіба іх віна ў тым, што той загад быў састарэлым і ў яго яшчэ з 1995 года не былі ўнесены адпаведныя змены? А «падсунулі» ім гэты загад у мясцовым ваенкамаце. Як такое магло здарыцца?

Калі былы гарваенкам Г. Нікіценка атрымаў загад аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у палажэнне аб ваенна-ўрачэбнай экспертызе, дзе пералічваліся захворванні, па якіх прызыў у армію юнакоў абмяжоўваўся, ён налажыў на ім рэзалюцыю: для выканання загадчыцы несакрэтнай часткі справаводства ваенкамата А. Кузняцовай. Тая ж праявіла халатнасць, забыўшыся ўнесці ў загад тыя змяненні, а начальнік другога аддзялення ваенкамата С. Чуракоў не пракантраляваў яе дзеянні. На судзе таксама выявілася, што тыя самыя змены ў адпаведным загадзе Міністэрства абароны не былі адзначаны і ў абласным ваенкамаце, і таму ўрачы абласной прызыўной камісіі пацвердзілі рашэнне сваіх калег з Добруша. У сувязі з гэтым так і хочацца спытаць: а колькі з-за гэтага пайшло служыць у армію юнакоў, якія з-за захворванняў і не павінны былі ісці ў салдаты? Адказу няма, бо калі б у Аляксандра М. не здарыўся інцыдэнт у вайсковай часці, ён бы і зараз выконваў свой воінскі абавязак.

Між тым, на ўтрыманне яго ў арміі было затрачана 4.143 тысячы рублёў, а на лячэнне — 3.015 тысяч. Гэтыя сумы пароўну і былі спагнаны з Добрушскага і абласнога ваенкаматаў на карысць вайсковай часці.

А што ж з Аляксандрам? Ды нічога. Яму ніхто нічога не заплаціў, хаця на пэўны час ён і быў адлучаны ад свайго заробку. Кажуць, што гэта не прынята ў такіх выпадках. А чаму? І ці справядліва гэта?

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*ЗВАНОК У КАРПУНКТ*

# НАВОШТА ТАДЫ АДКЛЮЧАЛІ ТЭЛЕФОН?

**У гродзенскі карпункт «Звязды» патэлефанаваў наш чытач з Ліды Вітольд Адольфавіч Вашкевіч. Амаль месяц ён праляжаў у бальніцы, а за тэлефон (27 тысяч 800 рублёў) жонка заплаціла 1 верасня — са спазненнем на адзін дзень. 14 верасня сувязісты паведамілі Вашкевічам аб адключэнні іх тэлефона за няўплату, што адразу ж і было зроблена. Пасля чаго абаненту давялося плаціць 24 тысячы рублёў за паўторнае ўключэнне.**

Вітольд Адольфавіч не аспрэчвае, што пратэрміноўка з разлікам, няхай нават на адзін дзень, — гэта парушэнне з боку кліента, за якое ён павінен неяк караццa фінансава, скажам, налічэннем пені. Аднак ён не разумее, навошта было адключаць тэлефон пасля таго, як абанент ужо разлічыўся.

У дзяржаўным прадпрыемстве «Гроднааблтэлеком» карэспандэнту «Звязды» паведамілі, што месячная дэбіторская запазычанасць за паслугі тэлефоннай сувязі складае каля 70 мільярдаў рублёў. Лідскі раённы вузел электроннай сувязі — не выключэнне: на сённяшні дзень тут маюць, а дакладней не маюць, прыкладна 3 мільярды рублёў абаненцкага доўгу. Па словах брыгадзіра разліковай групы Людмілы Саладоўнікавай, «судзімся, расшукваем кліентаў. Сёння, напрыклад, прыйшла жанчына, за якой 2 мільёны доўгу, і ўчыніла нам скандал». Другі неплацельшчык з'ехаў у Расію, і 4 мільёны рублёў «завіслі ў паветры».

Цяжар неплацяжоў не толькі перашкаджае сувязістам купляць абсталяванне, кабель, развіваць сеткі, але і адбіваецца на іх заробку. У гэтым месяцы, гаворыць Людміла Васільеўна, нас пазбавілі прагрэсіўкі, паколькі дэбіторская запазычанасць не скарацілася, а ўзрасла.

Зразумела, што ў такой сітуацыі сувязісты проста абавязаны рашуча змагацца з неплацельшчыкамі. Яны загадзя высылаюць усім абанентам рахункі з папярэджаннем, што калі ў вызначаны тэрмін не будзе аплаты, то тэлефон адключаць. Пеня за пратэрміноўку плацяжу не прадугледжана, фінансавай санкцыяй з'яўляюцца грошы, якія бяруцца з абанента за паўторнае ўключэнне тэлефона. Гэтыя сродкі застаюцца ў сістэме сувязі і з'яўляюцца нейкай кампенсацыяй дэбіторскай запазычанасці.

А калі абанент захварэў альбо па нейкіх прычынах на шляху да яго згубіўся рахунак? Нарэшце, вяртаючыся да пытання спадара Вашкевіча, навошта адключаць тэлефон ужо пасля разліку? Аказваецца, 1-га чысла месяца ў той жа Лідзе спіса даўжнікоў яшчэ няма. Уся інфармацыя з вобласці збіраецца ў разліковым бюро ў Гродне, адкуль прыкладна ў сярэдзіне месяца трапляе да раённых сувязістаў. Пры гэтым невядома, хто з кліентаў на гэты час ужо разлічыўся.

Тым не менш і ў такой сітуацыі, па словах Людмілы Саладоўнікавай, зусім не абавязкова адразу ж адключаецца тэлефон: «Усе мы зямныя людзі і разумеем, што ў жыцці здараецца ўсякае». Разліковая група спрабуе індывідуальна падысці да сітуацыі, папярэджвае абанента, дае некалькі дзён на пагашэнне запазычанасці.

У выпадку з Вітольдам Вашкевічам гэты чалавечы фактар, мяркуючы па ўсім, не спрацаваў. Відавочна, што адключаць тэлефон чалавеку, які не з'яўляецца злосным неплацельшчыкам і тым больш ужо разлічыўся, — гэта не метад. За што Людміла Васільеўна папрасіла ў Вітольда Адольфавіча прабачэння. Грошы, якія ён заплаціў за паўторнае ўключэнне тэлефона, пойдуць у лік наступнай абаненцкай платы.

Такім чынам, непаразуменне вычарпана. Але тут, лічыць Людміла Саладоўнікава, варта звярнуцца з парадай і да саміх абанентаў. У кожным рахунку з прадпрыемства сувязі ўказаны тэлефонны нумар аператара. А значыць, ён разлічвае на зваротную сувязь. «Дзяўчаты, прабачце, што крыху спазніўся, але сёння ж заплачу» — няўжо пашкодзіць такая «дробязь»? Тым самым можна не толькі не давесці справу да адключэння тэлефона, платы за яго паўторнае ўключэнне, але і клеткі нервовыя захаваюцца — як у саміх абанентаў, так і ў сувязістаў.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# ВУЛІЦЫ НАШЫХ УДОЎ



ІДУ СА ЗНАЁМЫМ па невялічкай вёсцы Асіннікі, што ў Докшыцкім раёне. Знаёмы, як гід недзе ў Сярэдняй Еўропе, расказвае:

— Тут жыве ўдава Марыля, яшчэ кароўку трымае. Тут удава Ванда, тут...

— Пачакай, што, адны ўдовы?

Спыніліся і палічылі. І сапраўды, на чатырнаццаць хат, з якіх раніцою яшчэ курыць дымок печы, чатыры мужчыны — зразумела, ужо далёка пенсійнага ўзросту. І дзевяць удоў, таксама пенсіянерак, якія ў адзіноце б'юцца на сваіх гаспадарках. Іх хаты і панадворкі мала чым адрозніваюцца ад астатніх, уласна кажучы, яны — пераважная большасць хат і панадворкаў у вёсцы. Але вопытнае вока адразу адзначыць тое дварышча, дзе яшчэ гаспадарыць мужчына.

Так, нашы вёскі (пакінем убаку цэнтральныя сядзібы гаспадарак, дзе яшчэ ёсць і моладзь) не толькі спрэс пенсіянерскія, але ў асноўным і ўдовіны. Тут не шкодзіла б прывесці статыстычныя даныя. Яны, безумоўна, уразілі б. І тым, якая старая наша любая і апетая вёска, і тым, як няшмат застаецца там мужчын. Але ніякая лічба не скажа галоўнага, за ёй не ўбачыш чалавека з яго асабістым лёсам, асабістымі нягодамі і пакутамі.

Думаю, што не так і цяжка адшукаць адказ на пытанне аб тым, чаму ж пераважаюць удовы. Сярод іх шмат яшчэ і тых, хто страціў карміцеля на вайне. А ведаеце вы, напрыклад, што мала хто з вясковых механізатараў пераэывае нашмат свой пенсійны ўзрост? Трактары нашы, асабліва гусенічныя, па эфекту ўздзеяння на чалавечы арганізм мала чым адрозніваюцца ад баракамер, дзе ідуць выпрабаванні на выжыванне. Ды і працуюць на іх мужчыны ад вясны да позняй восені па гадзін дванаццаць і без выхадных. Акрамя таго і свая гаспадарка высільвае. Не будзем хаваць — п'юць мужчыны на вёсцы, што таксама не дабаўляе ім гадоў. І кураць. Ды і п'юць, кураць — што танней, значыць, горш па якасці, бо вёска ў нашым грамадстве заўсёды бяднейшая за само грамадства.

Прадчуваю папрок нейкага скептыка: ну, зноў пачне пра горкую долю бабулі...

Пачну. Са школьных гадоў помняцца радкі Пімена Панчанкі:

*З-за каня, з-за палена без гневу*
*Удава б'е паклоны царку...*

Помняцца і таму, што напісаныя майстрам, і таму, што, упершыню прачытаўшы іх, сам ужо пабачыў і пачуў многае з жыцця старых людзей, і таму, што за гэтыя гады ў жыцці адзінокіх жанчын на вёсцы мала што змянілася, а калі і змянілася, то зусім не ў лепшы бок.

«Адпрацаваны матэрыял», з пункту гледжання таго ж цыніка, — яны непатрэбныя былі ні ў светлай будучыні камунізму, будаўніцтву якога ў свой час аддалі і сілы свае і здароўе, не патрэбныя яны і ў светлай будучыні таго, што мы ці то будуем, ці то лепім. Менавіта калгасы высмакталі з сённяшніх удоў усе іх сілы, маладосць, ад калгасаў уцяклі з вёсак дзеці. Але трэба быць аб'ектыўнымі: менавіта ж калгасы сёння для большасці ўдоў — адзіная падтрымка і надзея. Тым жа канём ці трактарам, тым жа паленам дроў. Іншая справа, што недзе гэта выпрошваецца і вымольваецца, як пра тое пісаў Панчанка, а недзе прадастаўляецца нават без просьбы, з пачуццём шчырай падзякі за ранейшыя вялікія заслугі.

Бо адна з галоўнейшых трагедый сённяшніх удоў — адзінота пры дзецях, якія рассяліліся ад райцэнтраў і да сталіцы, і вельмі рэдкія з якіх рэгулярныя наведвальнікі і памочнікі ў гаспадарцы. Гэта толькі ў апошнія часы, ад беспрацоўя, ад недахвату сродкаў на неабходныя прадукты сталі часцей успамінацца і бульбачка ля роднай хаты, і нешта жывое ў хлеўчуку, а заадно і сама хата, маці ў ёй.

Ды толькі і тут час ставіць сваю перашкоду. Як правіла, той, хто мае патрэбу ў прадуктах з вёскі, а значыць і жаданне дапамагчы ёй, уласнага транспарту не мае. Ну а праехаць з Мінска ў родную вёску — часам некалькі соцень тысяч. І гэта на аднаго.

Гэтым летам пазнаёміўся з Ядвігай Каэтанаўнай Янкавіч. 71 год бабулі. Закончыла адзін клас яшчэ польскай школы, трохі чытае на гэтай мове, пісаць зусім не ўмее. Але чалавек цікавы сваёй жыццярадаснасцю, своеасаблівым гумарам. Гаваркі чалавек. А самае галоўнае — працаўніца. Яна і з сенам для кароўкі справіцца, праўда, касіць ужо наймае. І ўсю астатнюю работу робіць, і ў лес па ягады (на здачу ў прыёмны пункт) паспее. А ў возе ездзіць — стоячы! Можна напісаць пра ўсё гэта з замілаваннем. За семдзесят гадоў — у возе стоячы, з віламі ў руках стог вяршыць. А можна ж і трэба задумацца: чаму? Ды таму што інакшага нашай бабулі не дадзена. Жыццё патрабуе, каб яна, адзінокая, да даравана дзяржаўнай пенсіі яшчэ нешта мела сваё, заробленае гэтымі слабымі рукамі. Ці не магла б наша бабуля пабываць на курорце? Ці не магла б праехацца па свеце? Бадзёрасці, як бачым, у яе яшчэ хапае. Ды што там — ёй бы проста забыцца на свае соткі, проста пасядзець. Не прывыкла? Ды прывыкла б за некалькі месяцаў. Усё гэта казачкі, што чалавек не можа без працы. Знайшла б сабе бабуля занятак. Ды той жа тэлевізар купіла б. Але няма на тэлевізар мільёнаў, ходзіць яна яго паглядзець да суседзяў. І толькі ў зімовую пару, калі працы ў полі і агародзе няма.

Вёска восеньскай парой. Раніца выхаднога дня. Па вясковай вуліцы з аўтобуса, вельмі рэдкага цяпер у глыбінцы, ідуць некалькі чалавек. Прыехалі да некага гараджане дапамагчы ўпарадкаваць на зіму гаспадарку, гной з хлева вывезці, бульбянішча пераараць, а то і парсючка, цялушку палажыць на алтар спажывання. І з кожнай хаты, з кожнага панадворка глядзяць бабулі: хто з надзеяй — а можа і да мяне сёння завітаюць, хто з глыбокай роспачу — мне чакаць няма каго.

Калі б мне сказалі: пералічы асноўных памочнікаў нашых бабуль, я доўга б не думаў: калгас, родныя ды сваякі, спіртное. Вось на трэцім трэба спыніцца асобна. Тая ж Ядвіга Каэтанаўна ў свой час была, калі казаць словамі міліцэйскіх пратаколаў, «актыўнай самагоншчыцай». Не, сама яна да гэтага прадукту абыякавая, у маладосці магла чарачку кульнуць у кампаніі. Але справы ў адзінокай бабулі такія, што без ладнага запасу спіртнога абысціся ёй і вясной, і летам, ды і зімою немагчыма. Там, дзе патрэбны мужчынскія рукі, дзе нельга абысціся без тэхнікі, — патрэбна ад бабулі і бутэлька. Гэта няважна, што выпісаны нарад і заплачаны за камбайн грошы. І камбайн жа можа хадзіць па ніве па-рознаму.

Цяпер Ядвіга Каэтанаўна перад дзяржавай не грашыць і таму расказвае пра былое. Цяпер яна з прыходам у вёску аўталаўкі спяшаецца да яе найперш з адным клопатам: цукар, хлеб, макарона — гэта потым, галоўнае — прыкупіць спіртнога. Найлепш віна, бо гарэлка ў адпаведнасці з яе пенсіяй, ужо недасягальная. Ну а мужчыны прымаюць любое.

І яшчэ. Усё больш і больш нашых удоў на вёсцы, старэючы, слабеючы, становяцца вымушанымі вегетарыянкамі. Збываюцца пакрыху каровы, выводзяцца з хлявоў свінні. Няма сілы. Ходзяць па панадворку некалькі курэй — і то добра. Неяк у аўтобусе пачуў размову дзвюх бабулек.

— А ў нас жа ў вёсцы хаўтуры былі. Пётра Курыловіч памёр. Помніш такога?

— Чаму ж не помню, яшчэ на вечарыны разам хадзілі. Хварэў?

— Ды не так каб і хварэў, крактаў пакрыху. А тут паваліўся...

— І як?

— Ды пахавалі. Добра пахавалі, сыны прыехалі, старшыня мяса выдзеліў. Я, далібог, дык аб'елася, чарку як глынула — такі апетыт...

У нашым народзе спакон веку шкадавалі ўдоў, ды гэта бачна і па фальклоры. Шкадуюць іх і на вёсцы. А ў рэшце рэшт, каго там можна не шкадаваць? А вось дапамагчы ўсім, зрабіць іх жыццё больш-менш прыстойным сёння цяжка.

Прыехаў дадому, іду па родным гарадку ўжо ў поцемках. На роднай вуліцы свецяцца вокны знаёмых з дзяцінства хат. Вось тут цётка Ніна жыве, тут Галіна, тут — Ангеліна...

Пачакай, дык і тут жа вуліца ўдоў. У нашым канцы вуліцы на два дзесяткі хат колькі? Пяцёра мужчын. Тое, што ўжо пануе на вёсцы, прыходзіць і ў невялікія гарадкі. Хоць умовы і абставіны жыцця тут крышачку іншыя, але гісторыя паўтараецца.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**
*Віцебская вобласць.*

*СЕНСАЦЫІ ЭПОХІ НТР*

# САКРЭТАМ НАРОДНАЙ МЕДЫЦЫНЫ БЕЛАРУСКІХ ДАКТАРОЎ ПАЧНУЦЬ ВУЧЫЦЬ ЧАРАЎНІКІ

***Ведзьмакоў на маёй памяці ў вёсках ужо жыўцом не палілі. Горшае, на што былі здатныя падпіўшыя мужыкі, — пабіць у хаце шыбы, калі ўжо вельмі каторы «даставаў»: адбіраў у каровы малако, напускаў чары на парася ці ікаўку на гаспадыню. Але найчасцей стараліся жыць са знахарамі ў згодзе. Бо калі мясцовы доктар Барташэвіч (а добры быў доктар!) не мог агораць хваробу, запрагалі каня і везлі на хутары, да знахара. Ці бабкі-«шаптухі», а іх раней было куды як больш, і яны адны паспяхова лячылі ваўчанку, пярэпалах і адахвочвалі гуляку-мужыка ад чужой маладзіцы.***



Выхаваны на павазе да сціплых «чарнакніжніц» з вясковых засценкаў, ужо пазней я не аднойчы задаваў зусім розным медыкам адно і тое ж пытанне: а чаму амаль не бярэцца пад увагу векавы пласт народнай медыцыны? І амаль ніколі не атрымліваў выразнага адказу. Зрэшты і без іх адказу разумеў: час такі.

І вось навіна дык навіна напрыканцы стагоддзя: у родным БДУ адкрываецца факультэт фундаментальнай і нетрадыцыйнай(!) медыцыны. Пакінем у спакоі фундаментальную, з ёю ўсё больш-менш ясна, і распытаем дэкана-арганізатара Дзмітрыя САГАЙДАКА пра іншае.

*— Давайце на ўсякі выпадак удакладнім, пра якую нетрадыцыйную медыцыну ідзе размова. Мо вы маеце на ўвазе кітайскую, а я і радуюся.*

— Якраз кітайскую і маем. У тым ліку. Беларускую народную таксама. А яшчэ тыбецкую, і нават афрыканскіх плямён, якія таксама што-нішто ўмеюць. Але вы не пужайцеся такой «салаце». Практыка адсее ўсё лішняе. Вопыт Захаду пацвярджае. Там па статыстыцы 30 працэнтаў насельніцтва (а гэта сур'ёзная лічба) рэгулярна звяртаецца да паслуг нетрадыцыйных медыкаў. Што прымушае забяспечанага заходняга абывацеля гэта рабіць? І тое, што ўрачы лечаць канкрэтную, асобна ўзятую хваробу, а не чалавека. Пульманолаг лечыць запаленне лёгкіх, а можа «пасадзіць» пры гэтым ныркі, але яго гэта не хвалюе, бо будзе праблемай уролага. І тое, што сучасныя лекавыя сродкі даюць мноства пабочных эфектаў. І гэтак далей.

*— Але ўсё ж я хацеў бы абсалютна канкрэтна ведаць, на якія аўтарытэты вы будзеце абапірацца. Афрыканскі шаман ці філіпінскі хілер — гэтая экзотыка наўрад ці для нас. Якім навукам вы будзеце вучыць беларускага студэнта?*

— Можна пачаць з таго, да чаго паспелі прывыкнуць і накапілі нават уласны вопыт: гамеапатыя, траваляченне. Стварэнне фармакалагічных сродкаў расліннага, а таксама мінеральнага і жывёльнага паходжання. Потым рэфлексатэрапія. Вы мусіце пагадзіцца, што ў Беларусі існуе неблагая ўласная школа рэфлексатэрапіі, якая ўзяла самае лепшае ад іншых школ, і ў першую чаргу ад усходняй. Спачатку была іголкатэрапія, мануальная тэрапія, зараз культывуецца энергатэрапія. Тыя самыя нашэптванні, «шэпты», якімі ўмела карысталіся вясковыя бабкі, але на якасна іншым узроўні. У гэтыя дні мы прымаем у сябе кітайскіх спецыялістаў, яны называюць гэтую з'яву «чы-тэрапія» і тлумачаць яе як кіраўніцтва цыркуляцыяй нейкай жыццёвай энергіі.

Няблага асвоена практыка натурапатыі з яе шматлікімі адгалінаваннямі, пачынаючы ад правільнага харчавання, асцярожнага лячэбнага галадання, спецыялізаваных дыет — сокавай і інш.

*— Мне здаецца, вас чакаюць праблемы з выкладчыкамі. Бабулю-«шаптуху» за кафедру сілком не паставіш. А хто яшчэ вам можа быць карысны?*

— Па ўсіх тых накірунках, якія я пералічыў, ёсць спецыялісты з імем, у тым ліку дактары і кандыдаты медыцынскіх навук, і папярэдняя дамоўленасць з многімі дасягнута. Ёсць Асацыяцыя нетрадыцыйнай медыцыны, якую ўзначальвае былы міністр аховы здароўя Уладзімір Улашчык. Беларуская асацыяцыя рэфлексатэрапеўтаў, якой кіруе вядомы Аляксандр Сівакоў... Мы разлічваем і на іх дапамогу.

Іншая справа, як паставіць усе састаўныя гэтай работы на законную аснову. Па-першае, не ўсе тыя, хто паспяхова практыкуе, мае ліцэнзію. У суседзяў ва Украіне і ў Расіі закон дазваляе займацца не лячэннем, а лекарствам. Для гэтага не абавязкова мець дыплом урача. Важна мець станоўчыя вынікі ў лячэнні людзей. Спецыяльна створаная камісія апытвае пацыентаў такога практыкуючага лекара і ўстанаўлівае, што ў 60—80 працэнтаў назіраецца станоўчы эфект. І выдаецца адпаведны дазвол. Нам, каб устанавіць і сертыфікаваць вынікі нетрадыцыйных падыходаў, трэба апераратыўна паклапаціцца пра адпаведную заканадаўчую базу. І прызнаць таленавітых людзей на афіцыйным узроўні, легалізаваць іх, адхрысціўшыся ад шарлатанаў. І такім чынам даць нам права запрашаць найбольш здатных і вопытных на кафедру універсітэта ў ролі выкладчыка ці лектара.

*— Адно шкада: позна спахапіліся. Многае згублена, пайшло ў нябыт разам з дзядамі. І ўсё ж вам не абысціся без своеасаблівых «фальклорных» экспедыцый у глухія вёскі ў пошуках чарадзеяў і знахараў.*

— Нашай «заслугі» ў тым няма, што позна спахапіліся, хоць гэта слабае суцяшэнне. Праўда, тэхналогіі развіцця ў чалавека (асабліва адоранага чалавека) лекарскіх якасцяў не больш з'яўляюцца сакрэтам. Я не думаю, што нашы дзяды забралі з сабой абсалютна ўсё. Многае можна аднавіць. Існуюць сур'ёзныя даследаванні.

Канешне, рэцэпты цудадзейнага зелля мы хутчэй за ўсё не атрымаем, яны пайшлі разам з іх носьбітамі. Жыла, скажам, у Мінску у раёне вуліцы Карла Лібкнехта старая жанчына, якая рыхтавала цудадзейную ваду, што дапамагала нават пры складаных апёках. Колькі ні даследавалі гэтую ваду па фізіка-хімічных уласцівасцях, зразумець не змаглі... Звычайная старая, а колькі людзей уратавала. Так што не варта рабіць з вясковай ці гарадской знахаркі нейкую Бабу-Ягу. Сёння ў яе — з нашай дапамогай — будзе іншы імідж. Чалавека, які з'яўляецца носьбітам народнай медыцынскай культуры, вяртае нас да яе вытокаў. Да азбукі здароўя.

*— Па сумеснаму загаду міністра аховы здароўя і рэктара БДУ афіцыйна факультэт адкрываецца ў наступным годзе. Але, я ведаю, вы збіраецеся пачынаць ужо сёлета. Пачынаць з чаго?*

— З зусім рэальных рэчаў: забеспячэння сістэмы аховы здароўя кадрамі, якія ёй проста неабходны ў рыначных умовах і ў век тэхнічнага прагрэсу. На роднасных нам факультэтах будзем рыхтаваць (па прыкладу універсітэта ў Кемераве) менеджэраў, эканамістаў для лячэбных устаноў, якія маглі б працаваць намеснікамі галоўнага ўрача, граматна займацца забеспячэннем лекавымі формамі, абсталяваннем, весці фінансы. А таксама будзем рыхтаваць спецыялістаў па медыка-сацыяльнай дапамозе і страхавой медыцыне. Я вельмі хацеў бы, каб набор быў аб'яўлены ўжо ў лістападзе. Магчыма, на платнай аснове, бо з бюджэтнай падтрымкай пакуль складана.

У бліжэйшых планах таксама падрыхтоўка медыцынскіх метролагаў, інжынерных кадраў для работы на медыцынскім абсталяванні. Адны тамографы патрабуюць нямала спецыялістаў-праграмістаў, электроншчыкаў. Так што «каваць» кадры для медыцыны будуць адразу некалькі факультэтаў БДУ — фізічны, хімічны, біялагічны і нават геаграфічны: урачы-валеолагі павінны ўмець выкарыстоўваць прыродныя рэсурсы свайго краю.

*— Дзмітрый Ільіч, але чаму ўсё ж БДУ? Стала мала медінстытутаў?*

— Проста БДУ вяртаецца да класічнай мадэлі універсітэта, у якім заўсёды быў факультэт па падрыхтоўцы ўрачоў. Такі факультэт зараз існуе і пры МГУ, адбыліся два выпускі. Нават скептыкі пераканаліся, што падрыхтоўка стала больш фундаментальнай. Сёння ўрачу сапраўды патрэбны веды і ў галіне інфармацыйных тэхналогій, і высокая дасведчанасць у матэматычным апараце, што выкарыстоўваецца пры дыягностыцы і лячэнні. У аддзеле кардыяманіторынгу фірмы «Х'юлет Пакарт» працуюць 1700 спецыялістаў па матэматычнай медыцыне (ці па медыцынскай матэматыцы — як хочаце). Гэтая лічба вымушае задумацца над рэаліямі часу.

**Здзіўляўся**
**Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**

**НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ**

**Калектыў аўтараў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь у саставе Г. Куляшовай, Т. Дубковай, Т. Мдзівані, Л. Пятровай, Ю. Чурко, Н. Юўчанка падрыхтаваў і надрукаваў цыкл прац па тэорыі і гісторыі музычнага тэатра нашай краіны.**

# Даследуюцца тэорыя і гісторыя музычнага тэатра Беларусі

Трэба адразу адзначыць, што выканана унікальнае даследаванне. Аўтары ўпершыню глыбока і ўсебакова далі цэласную карціну развіцця беларускага музычнага тэатра.

Беларускі музычны тэатр прайшоў вялікі і складаны шлях даўжынёй больш за 70 гадоў. Вытокі прафесійнага музычнага тэатра Беларусі былі закладзены ў народным мастацтве папярэдніх стагоддзяў. Таму не выпадкова працэс фарміравання прафесійнай музычна-тэатральнай школы адбываўся разам з развіццём аматарскага мастацтва, якое насіла масавы характар.

У даследаванні асабліва грунтоўна распрацавана пытанне аб нацыянальнай спецыфіцы музычнага тэатра Беларусі. Ужо з самага пачатку яго фарміравання шырока былі выкарыстаны нацыянальная тэматыка ў раскрыцці сучаснасці, нацыянальная літаратура і беларускі фальклор, багаты легендамі і паданнямі. У выніку станаўлення і развіцця прафесійнага музычна-тэатральнага мастацтва Беларусі стварыўся нацыянальны беларускі стыль, які з'явіўся асновай не толькі опер, балетаў, аперэт, але і сімфоній, кантат, камернай музыкі.

Калектыў аўтараў правёў вялікую работу па вывучэнню архіўнага матэрыялу, які захаваўся ў бібліятэках рэспублікі, а таксама ў прыватных асоб.

Як значную вартасць выданняў трэба адзначыць тое, што яны маюць даведачны матэрыял — паказальнікі імён, паказальнікі твораў, храналагічны паказчык оперных і балетных пастановак Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, храналагічны паказчык спектакляў Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь. Выданні добра ілюстраваныя, даюцца нотныя прыклады твораў беларускіх аўтараў. І вельмі істотна, што два апошнія выданні рэкамендаваны Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь у якасці падручніка для навучальных устаноў культуры і мастацтва. І яшчэ адна асаблівасць — адзінае, добра прадуманае афармленне ўсіх кніг, высокі ўзровень выдавецкай культуры і паліграфічнага выканання.

Цыкл навуковых даследаванняў па музычнаму тэатру Беларусі з'яўляецца значнай падзеяй у культурным жыцці краіны і, безумоўна, заслугоўвае вылучэння на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

**Ф. САВІЦКІ.**

# ЧЫТАЮЧЫ «АПАКАЛІПСІС ДУШЫ»

**Той, хто займаецца паэзіяй, ведае, што ў ёй бываюць розныя адкрыцці і вынаходкі. Мы ведаем такія творы, якія можна чытаць злева направа, і справа налева, і пры гэтым не мяняецца сэнс напісанага. Але гэта звычайны набор слоў-пустышак, слоў-бурбалак. Дык можа і вянок вянка санетаў Зміцрака Марозава з гэтай катэгорыі?**

Калі б хто-небудзь так і падумаў, то здорава памыліўся б. Уважліва чытаючы твор, бачыш, што форма не замінала аўтару думаць, эксперыментаваць, адбіраць самае істотнае і класці ў аснову твора. Ён стараўся гаварыць пра тое, што набалела і хвалявала не толькі самога аўтара, але і кожнага з нас. Паэт разважае, звяртаецца да фактаў, узважвае іх, адмаўляе і пратэстуе, гневаецца і радуецца, сцвярджае і выкрывае, робіць усё магчымае дзеля таго, каб намаляваць паўнакроўную карціну нашага часу, нашага веку, які трымаецца на трывалым падмурку мінулага, даўняга і нядаўняга, і ўсяго таго, што мы называем сучаснасцю.

Каб быць канкрэтнымі ў разважаннях, давайце звернемся да асновы асноў вянка вянкоў санетаў — магістралі, вобразна кажучы, да падрубы, на якім трымаецца ўвесь твор. У магістралі, як трэба думаць, павінны быць гранічна скандэнсаваная думка, глыбокі сэнс, кожны радок павінен быць хоць і не крылатым выразам альбо ідыёмай, дзе словам цесна, а думцы прасторна, але набліжацца да іх, і гаварыць аб прысутнасці чагосьці значнага, важкага і ў той жа час арыгінальнага.

*Вянок санетаў —*
*летапіс дарог,*
*У ім — Пятраркі ліра*
*трапяткая,*
*Мільён надзей, памкненняў*
*і трывог,*
*Тваё святло, старонка*
*дарагая.*

Калі глядзець на гэту страфу з вышыні дасягненняў нашай сягоннняшняй традыцыйнай паэзіі, то ўсё тут на месцы, і думка выказана няспешна, з толкам, з роздумам і па-сталаму — тут не знойдзеш таго, супраць чаго можна запярэчыць альбо катэгарычна не пагадзіцца. Па страфе добра бачна, што аўтар эрудзіраваны, начытаны і культурны чалавек, ён знаёмы не толькі з лепшымі ўзорамі сучаснай, але і той паэзіі, што стваралася на працягу многіх стагоддзяў. У радках мы не знойдзем нейкіх асабліва кідкіх, стракатых і звышнатуральных вобразаў, якія б маглі збіць спанталыку, асляпіць і закруціць галаву, хаця і прысутнічае пэўная метафарычнасць — здаровая, стрыманая і разважлівая; кожны радок, як кажуць, моцна збіты і падшыты, у ім не знойдзеш непатрэбных альбо прыблізных слоў. Нас прываблівае чаканная рытміка і дакладная мелодыка страфы, прастата, а не спрошчанасць, заземленасць, а не прыземленасць, думкі аўтара.

Няцяжка заўважыць, што аўтар не збіраецца спяваць панегірыкі ці прысвячаць оды хоць каму-небудзь з сучасных і былых кіраўнічых Цэзараў. Ён цвяроза глядзіць на нядаўніх і сучасных багоў, якія не супраць таго, каб каля іх галавы свяціўся святы німб, і рэжа праўдуматку прама ў вочы:

*Заложнікі містычных*
*перамог,*
*На яве мы спазналі*
*пекла «раю».*

Блізка пастаўленыя два словы з процілеглым значэннем даюць незвычайны і плённы эфект. Яны, як светлавая ўспышка, надзвычай ярка высвечваюць тое, што хацеў сказаць паэт. Гэта да таго, што датычыцца творчых пошукаў і знаходак Зміцрака Марозава.

Зміцрок Марозаў з тых паэтаў, якому не па душы слоўны бывльнёг і паэтычнае рамесніцтва. Ён адносіцца да ўсяго гэтага як да пустазелля, аб'яўляе яго для сябе непрымальным, хаця яго заява нейкім чынам гучыць крыху дэкларатыўна. Але ж гэта магістральны вянок санетаў. Чытачам трэба спадзявацца на тое, што аўтар пастараецца гэту думку, пазначаную загадзя, абавязкова ўспомніць у іншых вянках санетаў, пагаварыць пра яе больш шырока і больш канкрэтна, звярнуўшы ўвагу на нейкія дэталі і падрабязнасці, і адначасова даць рашучы і сапраўдны бой усяму таму, што замінала ці замінае нам і цяпер, не хоча саступіць з нашай дарогі. Неяк як бы са спагадай і з нейкім крыху прыхаваным шкадаваннем паэт ушчувае сучаснікаў: «Дзяруць чубы заканадаўцы мод — багацце, славу дзеляць між сабою, але ўзаемнай волі рабскі лёд, надзеі зорка свеціць над зямлёю». Не толькі дзяруць чубы, калі дзеляць славу сягонняшнія «заканадаўцы мод». Калі б яны хапаліся толькі за чубы, яшчэ куды б ні ішло. А то ў ход пускаюць тое, што можа і пакалечыць чалавека.

Паэт узнімае і ставіць перад намі маральна-этычныя пытанні і праблемы, імкнецца зазірнуць у душу свайго сучасніка, даведацца, пра што ён думае, што яго непакоіць і турбуе. Паэт лёгка перакідвае масцік паміж вянкамі і эпохамі, падзеямі шматвекавой даўнасці і сягонняшнім днём. Ён стараецца намаляваць велізарнае палатно, неабдымную панараму нашай айчыннай гісторыі, тых перапетый, войнаў і віхураў, што прайшліся па нашай зямлі. Безумоўна, ні адзін твор не можа і не здольны адлюстраваць наш час, нашу эпоху. Але тое, што Зміцрок Марозаў не пабаяўся ўзяцца за стварэнне фрагмента для агульнай панарамы, — вельмі пахвальная і пачэсная з'ява і справа ў нашай літаратуры.

У кароткай рэцэнзіі нельга сказаць пра ўсе як станоўчыя бакі, так і некаторыя хібы гэтага незвычайнага твора. Пра яго, думаецца, будуць пісаць як рэцэнзіі, так і літаратуразнаўчыя даследаванні. Твор варты такой увагі і таго, каб ён быў адзначаны літаратурнай прэміяй.

**Васіль МАКАРЭВІЧ.**

## Маладыя беларускія спевакі разлічваюць на перамогу ў конкурсе «Залатога шлягера-98»

**Дванаццаць маладых спевакоў з розных рэгіёнаў нашай краіны прынялі ўдзел у адборачным туры конкурсу VI міжнароднага музычнага фестывалю «Залаты шлягер-98», які адкрыецца ў Магілёве 1 лістапада.**

Аўтарытэтнае журы на чале з народным артыстам Беларусі кампазітарам Леанідам Захлеўным адзначыла вельмі высокі прафесійны ўзровень удзельнікаў сёлетняга адборачнага тура. Па ўмовах яго правядзення трэба было абраць трох спевакоў, якія будуць прадстаўляць Беларусь на конкурсе. Журы аднадушна вылучыла Аляксандра Звяровіча (Гродна), Ірыну Дарафееву (Мінск) і Антона Ажыпу (Магілёў). Усяго ж у сёлетнім конкурсе будуць прымаць удзел маладыя выканаўцы з дванаццаці дзяржаў, у тым ліку з Югаславіі, Балгарыі, Ізраіля і краін былога СССР.

**Ілона ІВАНОВА.**

***На свае вочы***

# СТВАРАЛЬНІКІ «ЦУДА» НЕ ПАДОБНЫЯ НА ЧАРАЎНІКОЎ

**(Працяг. Пачатак у №№ 211—213).**

Тайваньцы добра разумеюць, што ў свеце няма нічога пастаяннага. І тое багацце, якім яны зараз валодаюць і якое не звалілася на іх з неба, а было зароблена цяжкай працай усяго народа, можа паступова скончыцца. Каб абараніць сябе ад непрыемных сюрпрызаў накшталт апошняга азіяцкага фінансавага крызісу і захаваць свой высокі ўзровень дабрабыту, тайваньцы асвойваюць новыя віды вытворчасці, пераважна навукаёмістыя, адкрываюць новыя рынкі збыту прадукцыі, укладваюць дзесяткі мільярдаў долараў ЗША у выглядзе інвестыцый у выгадныя, прыбытковыя праекты. На Тайвані вялікія грошы робяць новыя вялікія грошы.

Аднак іх наяўнасць, як мне падалося, не супакойвае і не расслабляе большасць насельніцтва. Гэта добра бачна на прыкладзе адносінаў тайваньцаў да адукацыі. Яны шмат і ўпарта вучацца. Не шкадуюць грошай на запрашэнне выкладчыкаў з лепшых універсітэтаў свету.

У Тайбэі мне трапіла на вочы мясцовая газета на англійскай мове «The China Post». Зазірнуў на паласу маленькіх прыватных аб'яў. І якое ж было маё здзіўленне, калі 80 працэнтаў іх датычыліся пошуку не проста кваліфікаваных выкладчыкаў англійскай мовы, а выключна тых, для якіх яна з'яўляецца роднай. Абяцаліся выдатныя ўмовы працы і высокая аплата.

Праяўляюць тайваньцы цікавасць і да іншых распаўсюджаных моў, у тым ліку і да рускай. У Тайбэі мне давялося сустрэцца з яе выкладчыкамі з Масквы. Адна з іх, Людміла Яркіна, кандыдат філалагічных навук, дацэнт універсітэта Дружбы народаў імя П. Лумумбы, раней выкладала рускую як іншаземную мову. У Тайбэі ўсяго тры тыдні, і яе параўнанні наконт таго, «як у нас і тут» наладжаны навучальны працэс былі свежыя і цікавыя.

Паводле яе слоў, яна тут нарэшце адчула гонар за сваю прафесію. Аказваецца, праца выкладчыка ВНУ на Тайвані прэстыжная і выдатна матэрыяльна ўзнагароджваецца. З першых крокаў яна сустрэла тут уважлівыя адносіны з боку прадстаўнікоў універсітэта, які падпісаў з ёй гадавы кантракт. Ёй бясплатна прадаставілі ў інтэрнаце прасторны зручны пакой з усімі выгодамі, кандыцыянерам, кухняй, з наборам бытавой тэхнікі. Але ёй яна рэдка карыстаецца, бо за межамі універсітэцкага гарадка знаходзяцца сотні закусачных і кафэ, дзе можна за 1,5-2 долары ЗША смачна і разнастайна паесці.

Тэрыторыя гарадка надзвычай прыгожая і добраўпарадкаваная. Тут створаны ўсе умовы для працы і адпачынку. Л. Яркіна, як выкладчык, мае свой асобны офіс з камп'ютэрам, доступам у Інтэрнет, іншай аргтэхнікай.

Нагрузка ў выкладчыкаў тут параўнальна невялікая — у сярэднім 14 гадзін, у дацэнта — 8-9 гадзін. Асобна аплачваюцца дадатковыя заняткі, навуковая работа. Студэнты актыўныя, старанныя і дысцыплінаваныя. Адносіны з калегамі прыемныя, добразычлівыя. Усё гэта ў комплексе прыносіць задавальненне ад працы.

У вольны час яна і яе сяброўкі з Масквы займаюцца спортам. У 6 гадзін раніцы яны ўжо на тэнісных кортах, якія, як і іншыя спартыўныя пляцоўкі, звычайна запоўнены амаль поўнасцю. Вечарам тут папулярныя пешыя прагулкі ў горы, якія пачынаюцца ўжо на тэрыторыі гарадка. Карацей, ёсць усе магчымасці трымаць сябе ў добрай форме.

Ёсць, зразумела і свае праблемы. Калі ўсе калегі па універсітэту ведаюць англійскую мову, то за яго межамі ўзнікаюць моўныя складанасці. Напрыклад, з транспартам. Без ведання кітайскай мовы цяжка арыентавацца ў прасторы. Паўсюдна ўсе надпісы зроблены іерогліфамі, толькі назвы некалькіх галоўных дарог прадубліраваны на англійскай мове.

У сувязі з гэтым вельмі цяжка правільна вызначыць маршрут гарадскога аўтобуса, а іх вадзіцелі размаўляюць толькі па-кітайску, і пры іх распытванні не вызначаюцца ветлівасцю. Таму з першага разу правільна даехаць па патрэбнаму адрасу ў рускіх выкладчыкаў не заўсёды атрымліваецца. Яны часта блукаюць, робяць перасадкі, пакуль трапяць на месца.

Нягледзячы на ўсю непаўторнасць, самабытнасць і своеасаблівасць тайваньскага ладу жыцця, мне неаднойчы здавалася, што я быццам бы трапіў у наша нядаўняе савецкае мінулае. Так, у адносінах да ўшанавання памяці сваіх правадыроў назіраецца тая ж пампезнасць, унушальныя помнікі і кананізацыя вобраза правадыра. Шырока распаўсюджана выхаванне падрастаючага пакалення на ідэях і прыкладзе яго жыцця.

Мемарыяльны комплекс генералісімуса Чан Кай-Шы, былога кіраўніка партыі Гаміндан і стваральніка тайваньскай дзяржаўнасці ў цэнтры Тайбэя — святое для яго жыхароў месца. Тут заўсёды ёсць людзі, сюды абавязкова прыводзяць замежных гасцей. У дзень нашага знаходжання тут было асабліва шмат выхаванцаў дзіцячых садоў. Апранутыя ў прыгожыя летнія касцюмчыкі (кожная група ў свой колер — на той выпадак, калі дзіця раптам згубіцца), яны маляўнічымі стайкамі прахадзілі каля вялікіх карцін, дзе былі адлюстраваны розныя этапы дзейнасці Чан Кай-Шы (на вайне, у час марскога бою, на вуліцы з народам і г. д.), затрымліваліся ля двух велізарных «Кадзілакаў», на якіх ездзіў правадыр.

Але галоўнае іх чакала наперадзе — у велічнай зале з белага мармуру, дзе знаходзіцца шматметровая скульптура Чан Кай-Шы. У адрозненне ад Леніна, які паўсюдна, стоячы ўказвае рукой шлях да светлай будучыні, тайваньскі правадыр сядзіць у крэсле і з вышыні свайго выключнага становішча ў гісторыі Тайваня спакойна і мудра глядзіць на пераемнікаў сваёй справы.

А яны тым часам, аддаўшы даніну павагі Настаўніку, з цікавасцю назіраюць цырымонію змены ганаровай варты, фатаграфуюцца на памяць і разыходзяцца па комплексу. Ён, між іншым, займае 250 тысяч квадратных метраў і з'яўляецца па сутнасці буйнейшым культурна-асветніцкім цэнтрам горада. Тут размешчаны выставачныя залы, бібліятэка, пакоі для лекцый, кінатэатр, канцэртная зала, тэатр і інш.

На тэрыторыі комплексу можна адпачыць аднаму ці з сям'ёй. Скажам, пасядзець ля адной з дзвюх сажалак, дзе плаваюць вялізныя чырвоныя дэкаратыўныя карпы, пагуляць па ценістых алеях, палюбавацца прыгожымі штучнымі ландшафтамі, важным элементам якіх з'яўляецца маляўніча раскіданыя вялікія і малыя камяні.

Наша былая заарганізаванасць адчуваецца ў правядзенні масавых святочных мерапрыемстваў. Іх дэманстрацыя з нагоды дня абвяшчэння тайваньцамі сваёй рэспублікі на востраве, якую мы, замежныя журналісты, мелі магчымасць назіраць, была ў многім падобная на нашы першамайскія парады і дэманстрацыі: тыя ж трыбуны, святочныя заклікі над плошчай, колоны ваенных, фізкультурнікі. Толькі выступленні артыстаў, пераапранутых у касцюмы драконаў, уносілі мясцовы каларыт.



● **Адзін з буйнейшых атэляў Тайбэя.**

Разам з тым, як мне падалося, тут адчуваецца амерыканізацыя моладзі. Мясцовыя хлопцы і дзяўчаты захапляюцца амерыканскай модай, музыкай. Сёння джынсы, можна сказаць, ужо сталі нацыянальным адзеннем тайваньцаў. Гэта ў многім тлумачыцца тым, што ЗША, бадай, самы цесны палітычны, ды і ваенны саюзнік Тайваня. Акрамя таго, вельмі многія тайваньскія сем'і маюць сваякоў у Амерыцы, часта прыязджаюць у госці адзін да аднаго.

Але якім бы моцным ні быў уплыў звонку, з захаду ці ўсходу, тайваньскае грамадства не адрываецца ад сваіх каранёў. І ў гэтым таксама адна з прычын уражальных пераўтварэнняў на востраве.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

**(Заканчэнне будзе.)**

